*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 41 (253)

14 кастрычніка 1995 г.

Кошт — 500 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ

○ **6 КАСТРЫЧНІКА Ў МЕНСКУ Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЎСЯ ЧАРГОВЫ IV З'ЕЗД ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф.СКАРЫНЫ.** Падрабязныя матэрыялы са з'езда будуць змешчаны ў бліжэйшых нумарах «Нашага слова».

○ ***НА ЧАРГОВЫМ ПАСЯДЖЭННІ КАЛЕГІІ КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ БЫЛО РАЗГЛЕДЖАНА ПЫТАННЕ*** *«Аб праекце Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь да 2000 года». А ў Расіі рыхтуюцца да рэферэндуму, каб праглынуць нашу дзяржаву да канца гэтага года.*

○ У ГУТАРЦЫ З КАРЭСПАНДЭНТАМ «ЗВЯЗДЫ» **МІНІСТР АДУКАЦЫІ І НАВУКІ ВАСІЛЬ СТРАЖАЎ СКАЗАЎ**: «Адносна моў. Вось гэтыя рухі ў другі бок — яны фактычна датычаць толькі пачатковай школы (у астатніх класах працэс пераходу на беларускую мову навучання не паспеў стаць такім масавым)... А пакуль прыкладна можна сказаць, што ў той жа пачатковай школе ўжо зараз — 60 працэнтаў рускамоўных першых класаў і 40 — беларускамоўных». Пры такой палітыцы, якая праводзіцца ў адносінах да нацыянальнага, да 2000 года наогул ці будуць беларускія класы ў Беларусі.

○ ***БЕЛАРУСЬ АДНАВІЛА ЗНІШЧЭННЕ ЗВЫЧАЙНЫХ УЗБРАЕННЯЎ*** *— аб гэтым заявіў на сустрэчы з прадстаўнікамі амерыканскіх дзелавых колаў Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.*

○ **1 КАСТРЫЧНІКА 1995 ГОДА — ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ АБ'ЯДНАНАЙ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ПАРТЫІ,** якая прэтэндуе на ўплывовую ролю ў палітычным жыцці Беларусі. Яна створана на аснове зліцця Аб'яднанай дэмакратычнай і Грамадзянскай партый. Узначаліў новую партыю былы старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч. Намеснікамі абраны Аляксандр Дабравольскі і Васіль Шлындзікаў.

○ ***ПРАЙШОЎ РЭСПУБЛІКАНСКІ КОНКУРС НА ЗВАННЕ ЛЕПШАГА ПЕДАГОГА ГОДА.*** *Пераможцам стаў настаўнік фізікі з Драгічына Брэсцкай вобласці Уладзімір Здановіч. Размаўляючы з карэспандэнтам тэлебачання, Уладзімір Мацвеевіч паказаў сваё добрае валоданне беларускай мовай. Ёсць яшчэ людзі, якія памятаюць, што яны беларусы і іх родная мова — беларуская.*

○ **НА РАБОЧЫМ ПАСЯДЖЭННІ СУДДЗЯЎ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА ПРЫНЯТА КАНЧАТКОВАЕ РАШЭННЕ** аб даце разгляду справы аб канстытуцыйнасці прэзідэнцкага Указа № 336 «Аб некаторых мерах па забеспячэнню стабільнасці і правапарадку ў Рэспубліцы Беларусь» — слуханне справы, як планавалася першапачаткова, пачнецца 12 кастрычніка.

○ ***МІНІСТЭРСТВАМ ЮСТЫЦЫІ ЗАРЭГІСТРАВАНА РЭСПУБЛІКАНСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ СТУДЭНТАЎ-ПАЛІТОЛАГАЎ,*** *у якую ўвайшлі студэнты і аспіранты ВНУ. Першай пробай сіл для асацыяцыі стане ўдзел у асеннім выбарчым марафоне ў парламент. Юнакі і дзяўчаты РАСП маюць дэмакратычныя погляды на жыццё ў нашай краіне.*

***«СПАДЧЫНА ПАМЕРЛАГА ДЗЯДУЛІ»*** *Стар. 7.*

## IV з'езд ТБМ

**Адбыўся IV з'езд Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны. Дэлегатаў ад 132-х рэгіянальных арганізацыяў віталі Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыслаў Грыб і намеснік міністра культуры і друку Іван Карэнда.**

**Дэлегаты з'езда абмеркавалі стан роднай мовы, актуальныя праблемы беларушчыны ды супрацьстаяння русіфікацыі. З'езд прыняў Пастанову і некалькі зваротаў, абраў Старшынsocial Таварыства — народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча — ды новы склад рэспубліканскай Рады.**

**Падрабязна пра з'езд будзе ў наступным нумары.**

## «Роднае слова»

**Пасля значнага перапынку адноўлены выпуск тэлечасопіса «Роднае слова». Выпуск, што будзе паказаны 16 кастрычніка, цалкам прысвечаны развагам пра вынікі моўнага рэферэндуму на Беларусі. У перадачы прымуць удзел дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Аляксандр Падлужны, галоўны метадыст Міністэрства адукацыі і навукі Тамара Саўчук, настаўнікі Крашынскай школы Баранавіцкага раёна. Кожны з удзельнікаў перадачы выкажа свае развагі, меркаванні, як жыць і працаваць у новай моўнай палітычнай сітуацыі, што трэба рабіць, каб мова заняла сваё мейсца ў нашым духоўным жыцці. Плануецца, што перадача будзе насычана філасофскімі, метафарычнымі здымкамі, эмацыянальнымі эпізодамі.**

**Уладзімір Содаль.**

## НАВАГАРАДКУ — 950





**Матэрыялы чытайце на с. 8.**

## ...А 57студэнтаў вучацца па-беларуску

5 гадоў таму на гістарычным факультэце Белдзяржуніверсітэта на аддзяленні, што рыхтуе выкладчыкаў гісторыі, пачаў працаваць паток з выкладаннем усіх прадметаў па-беларуску. Былі цяжкасці як для студэнтаў, так і для выкладчыкаў: не хапала беларускамоўных падручнікаў; паралельна са спецыяльнымі дысцыплінамі прыйшлося ўспамінаць або вучыць беларускую мову. Але **на аддзяленне з роднай мовай навучання конкурс праз усе 5 гадоў быў большы. Засвойвалі гісторыю па-беларуску 75 чалавек, па-расійску — 25.** Трэба адзначыць, што без усялякага ціску і прымусу студэнты самі выбіраюць мову навучання. На будучы год планавалася зрабіць толькі беларускамоўнае аддзяленне. Але час распарадзіўся інакшай. У рэферэндуме, як у люстэрку, адбіліся ўсе цяжкасці і недарэчнасці нашага грамадства на шляху да сапраўднай незалежнасці. І на факультэце знайшлі адзіна правільнае рашэнне: правялі апытанне. Па выніках анкетавання **2/3 першакурснікаў прагаласавала за сваю родную мову**. А сярод 15 студэнтаў, што вучацца за свой кошт, 14 абралі расійскую мову. Такім чынам, зараз 57 студэнтаў атрымоўваюць веды па-беларуску, 46 — па-расійску.

Не робячы далёкіх высноў, хацелася б дадаць, што павагі і любові да роднага слова нам, беларусам, можна павучыцца ад людзей іншых нацыянальнасцяў.

З цікавага і змястоўнага аповяду намесніка дэкана Яноўскага Алега Антонавіча я пачула, што студэнты з далёкай Афрыкі, ведаючы расійскую мову, не цураюцца вучыць і беларускую.

**Ала ТАКІНДАНГ.**

***Актуальна*** ***Актуальна***

Як трэба рупіцца пра беларускую мову

# У Маладзечне без перамен

***На пытанні спецыяльнага карэспандэнта «Нашага слова» адказвае дырэктар Маладзечанскай беларускай гімназіі Барыс ВАЙЦЯХОЎСКІ.***

**— Барыс Уладзіміравіч, колькі год існуе ваша навучальная ўстанова як беларуская гімназія?**

— Ужо пяты год. Уласна, яна была задуманая і адкрыта менавіта як навучальная ўстанова з беларускім статусам і агульным эстэтычным ухілам. Зразумела, тое, што яна мае статус беларускай, чалавеку, скажам, не з Маладзечна яшчэ нічога не кажа. Можна ля парадных дзвярэй мецьшыльду-«сведчанне» пра гэта, а ў настаўніцкай, у кабінеце дырэктара, у класах — зусім іншае моўнае «начынне». Наша гімназія існа беларуская: тут усе прадметы, хіба толькі за выключэннем інфарматыкі, выкладаюцца на матчынай мове. Практычна ў гімназіі беларускамоўнае асяроддзе...

**— Мяркую, Вам вядомыя выказванні некаторых праціўнікаў беларушчыны: маўляў, на нашай мове нельга выкладаць натуральныя дысцыпліны — фізіку, матэматыку, хімію і г.д., маўляў, дзеці гэтыя прадметы не ўспрымаюць па-беларуску. Якія поспехі ў вашых гімназістаў па названых прадметах?**

— Лічу, што праблема тут ёсць у падобнага кшталту скептыкаў, а не ў беларускай мовы. Не буду наконт іхняга скептыцызму распаўсюджвацца: веды нашых гімназістаў ад таго, што прадметы выкладаюцца па-беларуску, горшымі не становяцца. Нашы навучэнцы, напрыклад, займаюць, як правіла, на маладзечанскіх алімпіядах, у тым ліку па фізіцы, хіміі ды матэматыцы, першыя і прызавыя месцы, нядрэнна выглядаюць і на алімпіядах рэспубліканскага ўзроўню — прызоў і грамат з Менска таксама прывозяць нямала. Але яшчэ лепш пра якасць гімназічных ведаў гаворыць статыстыка: у мінулым годзе працэнт выпускнікоў, якія паступілі ў ВНУ, склаў лічбу 68, сёлета — 72. Пераканаsuccessful: глыбокія веды можна атрымліваць на любой мове — беларускай, расійскай, нямецкай, англійскай, нават на мове папуасаў, якіх у свой час для цывілізаванага свету адкрыў падарожнік і вучоны Міклуха-Маклай. Былі б добрыя кадры і арганізацыя навучальнага працэсу. Яшчэ трэба жаданне такія веды атрымаць. Адзін «мой» бацька, які трошачкі выказваў падобныя сумненні, адразу ж гэтыя сумненні развеяў, калі я прапанаваў ягонае дзіця ўключыць у склад групы гімназістаў, якая павінна была паехаць вучыцца на два гады ў Германію да нашых нямецкіх сяброў. Тут ён адразу згадзіўся, а цяпер і да беларускага слова адносіцца з большай

*(Заканчэнне на с.7.)*

# В Е Р У Е М

## Беларускае праваслаўе

***(Да візіту Патрыярха Алексія II у Беларусь)***

*У газеце «Белорусский рынок» надрукаваны артыкул Ю.Шаўцова «Беларускае праваслаўе застаецца па-за палітыкай», скарочаны пераклад часткі якога мы падалі ў нумары 39. Аўтар гэтага надзвычай цікавага артыкула мяркуе, што Патрыярх падчас візіту ў Беларусь не падтрымаў архіепіскапа Магілёўскага і Мсціслаўскага Максіма ды палітыкаў, што стаяць за ягонай спіной. Гэтую галоўную думку, што выказана ўжо ў загалоўку, Ю.Шаўцоў не толькі пацвярджае аналізам падзей падчас візіту ды яго вынікаў, але згадвае і пра прычыны, што змусілі Патрыярха паехаць у Беларусь. Гэта і падзеі ў Чачні, што трактуюцца, як сутычка праваслаўя з ісламам, і супярэчнасці ў шэрагах самой РПЦ, і намер палітыкаў схіліць РПЦ (ды і БПЦ) да ўдзелу ў іх барацьбе за ўладу.*

Сітуацыю ў РПЦ драматызуюць пашырэнне ўплыву іншых канфесіяў ды рост колькасці іншых цэркваў. Самая складаная сітуацыя на Украіне. Праваслаўе ў Галіцы паспяхова заменена уніяцтвам (каля трох тысяч шматлюдных парафіяў). На Валыні РПЦ выціснута Украінскай Аўтакефальнай Царквою (прыкладна 1,5 тысячы парафіяў) і Праваслаўнай Царквой Кіеўскага Патрыярхату (прыкладна 3,5 тысячы царкоўных суполак). Кіеўскі Патрыярхат заваёўвае і Цэнтральную Украіну.

На Украіне адначасова з узмацненнем нацыяналізму ды станаўленнем незалежнай дзяржавы адбываецца кансалідацыя ўкраінскіх хрысціянскіх цэркваў. Яны яднаюцца ідэяй адзінай нацыянальнай украінскай царквы на антырасійскай глебе. Гэта стала відавочным пасля пахавання Кіеўскага Патрыярха Уладзіміра. У пахавальнай працэсіі ды сутычках з міліцыяй афіцыйна ўдзельнічалі не толькі праваслаўныя вернікі Украінскай царквы Кіеўскага Патрыярхату, але і Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ды Украінскай Грэка-каталіцкай Царквы (уніяцкай). Цалкам магчымы і наступны крок — аб'яднанне дзвюх украінскіх праваслаўных цэркваў у адну ды ўсталяванне брацкіх адносін паміж ёю і грэка-каталікамі. Якія перспектывы тады застануцца ў расійскага праваслаўя ў гэтай краіне? Быць царквою нацыянальнай меншасці?

У Беларусі сітуацыя іншая. Тут нацыянальныя сілы не такія моцныя, каб вылучаць ідэю гармanізацыі міжканфесійных адносін на нацыянальнай аснове. Тут не прадбачыцца перспектыва аўтакефаліцкага руху сярод праваслаўнага святарства. Затое ў Беларусі хуткімі тэмпамі расце ўплыў неправаслаўных цэркваў, што, верагодна, яшчэ небяспечней для РПЦ, чым нацыянальна-царкоўны сепаратызм.

Як бачым, РПЦ, з аднаго боку, не можа стрымаць рост альтэрнатыўных цэркваў, а з другога — зліцца з палітычнымі структурамі, якія арыентуюцца на адраджэнне расійскай дзяржавы.

Узнікае пытанне: якой можа быць альтэрнатыва Алексія II і Філарэта — курсу на палітызацыю РПЦ? Мяркуючы па выніках візіту Патрыярха ў Беларусь, ствараецца ўражанне, што яна вызначана: развіваць царкоўную адукацыю, царкоўныя парафіяльныя суполкі, царкоўную дабрачыннасць і адпаведныя структуры, праваслаўны бізнес. Менавіта на гэта скіраваныя агалошаныя падчас візіту Алексія II буйныя праваслаўныя праекты: стварэнне Праваслаўнай акадэміі і Дома міласэрнасці ў Менску, пашырэнне тэалагічнага факультэта пры Еўрапейскім гуманітарным універсітэце і Духоўнай семінарыі ў Жыровічах. Так беларускае праваслаўе паказвае імкненне не да палітызаванага і нацыяналістычнага, а да праваслаўя інтэлектуальнага і адукаванага. БПЦ атрымае магчымасць падрыхтаваць адпаведныя кадры, якія вытрымаюць місіянерскую атаку перш за ўсё каталіцызму, не выкарыстоўваючы дапамогу дзяржавы.

Такі курс непазбежна прывядзе БПЦ да падтрымкі нешматлікіх і слабых праваслаўных цэркваў у Польшчы, Летуве і Латвіі. Магчыма, менавіта таму такую вялікую ўвагу да візіту Патрыярха паказалі беластоцкія праваслаўныя, што ў дзесяці аўтобусах прыехалі вітаць Алексія II.

На такім шляху развіцця БПЦ спачатку будзе мець страты: у Беларусі працягнецца рост неправаслаўных цэркваў. Але гадоў праз пяць—дзесяць беларускае праваслаўе зможа самастойна развівацца ва ўмовах свабоднай канкурэнцыі з гэтымі цэрквамі. Гэта, у сваю чаргу, можа стаць падставай міжканфесійнай згоды ў Беларусі.

Складванне непалітызаванага праваслаўя, што пазначылася падчас візіту ў Беларусь Алексія II, магчымае толькі тады, калі ў Расіі не пераможуць прыхільнікі іншага шляху развіцця царквы. А таму сёння лёс міжканфесійнай згоды ў Беларусі вырашаецца і ў Маскве. Таму БПЦ мусіць падставіць сваё плячо прыхільнікам свабоднага развіцця царквы ў Расіі ды, у прыватнасці, стрымаць спробы памяняць курс і, магчыма, кіраўніцтва РПЦ. Гэта тым больш важна ва ўмовах, калі ў Расіі ўздымаецца чырвона-карычневая хваля.

Верагодна, менавіта гэтае апошняе і сталася галоўнай прычынай візіту ў Беларусь Алексія II. Як ні дзіўна гэта для нас гучыць, але калі сёння ў беларускага святарства хопіць энергіі дапамагчы Алексію II утрымацца пад уціскам, скіраваным супраць яго, тады праваслаўе і ў Бе-ларусі, і ў Расіі ўтрымаецца. Не хопіць — праваслаўе чакае эпоха вялікіх узрушэнняў ды крызісаў.

**Скарочаны пераклад артыкула Ю.ШАЎЦОВА з газеты «Белорусский рынок».**

## Святыні Беласточчыны

Здаецца, мы прывыклі да таго, што найменне «праваслаўная царква» трывала звязана з азначэннем «руская». А між тым, праваслаўе распаўсюджанае па ўсім свеце, сярод многіх нацый і народнасцяў. Пагаворым сёння пра аўтакефальную Праваслаўную Царкву ў Польшчы, пра праваслаўныя святыні ў гэтай краіне. Гэта тым больш для нас важна, што менавіта Праваслаўная Царква з'яўляецца для беларусаў Польшчы, у прыватнасці, Беласточчыны, тым апірышчам, што дапамагае захоўваць нацыянальную свядомасць, культуру, мову. Па дадзеных на 1992 год Праваслаўная царква ў Польшчы налічвала каля 700 тысяч вернікаў, аб'ядноўвала ў сабе веруючых розных нацыянальнасцяў: беларусаў, украінцаў, расійцаў, палякаў, лэмкаў, грэкаў, македонцаў. Царква падзяляецца на шэсць епархій. Апрача таго, у малітвенна-літургічнай злучнасці знаходзяцца праваслаўныя епархіі па-за межамі Польшчы: Аквілейская (Італія) і тры ў Партугаліі. Царква мае дзве тэалагічныя школы: Духоўны семінар і Хрысціянскую акадэмію тэалагічную, тры манастыры, у тым ліку два мужчынскія ў Яблачыне і Супраслі, і жаночы ў Грабарцы. У Царкве дзейнічае Праваслаўнае брацтва, якое яднае праваслаўную інтэлігенцыю, і Брацтва праваслаўнай моладзі, якое яднае праваслаўную моладзь краіны і належыць да Усеправаслаўнай маладзёжнай арганізацыі — Сіндэсмас. Ёсць на Беласточчыне і праваслаўныя святыні, якія ўшаноўваюцца ва ўсім свеце. Гэта многія іконы Божай Маці: Супрасльская, Бельская, Краснастоцкая, Пухлаўская, Васількоўская. Трагічны лёс напаткаў цудатворную ікону Беластоцкай Божай Маці, якую Супрасльскаму манастыру ахвяравала вялікая княгіня Галена Іванаўна, дачка маскоўскага вялікага князя Іаана Васільевіча, жонка вялікага князя літоўскага і караля польскага Аляксандра Ягелона. У пачатку XVII ст. Супрасльскую Лаўру гвалтам захапілі уніяты, яны не дапусцілі праваслаўных да святыні. Тады была зроблена дакладная копія іконы. Яна зрабілася найбольшай святыняй Беластока, да яе прыкладвалася, між іншым, сям'я Раманавых на чале з Мікалаем II. Аднак і гэтая ікона была звезеная падчас 1-й Сусветнай вайны. На падставе копій была створаная яшчэ адна, новая, ікона, тоесная арыгіналу, якая цяпер асвячае Свята-Мікалаеўскі сабор.

Бадай, найбольшай праваслаўнай святыняй Беласточчыны з'яўляецца святая гара Грабарка. Там стаяў храм Праабражэння Гасподняга, які некалькі гадоў таму быў спалены невядомымі зламыснікамі. Сёння царква адбудаваная. Штогод на Свята Праабражэння Гасподняга адбываюцца паломніцтвы да святой гары Грабаркі. Сёлета такое паломніцтва адбылося таксама. Незвычайна многа паломнікаў было ў гэтым годзе — дзесяткі тысяч. Адбудаваны храм уяўляе з сябе дакладную копію знішчанай святыні. Вечарам, на паніхіду за памерлых, прысутнічала 68 святароў і некалькі тысяч вернікаў, а таксама мітрапаліт Васіль і епіскапы Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Пад Грабаркай цячэ ручай, вада якога таксама лічыцца святою.

Цяпер — пра аўтакефалію Польскай Праваслаўнай Царквы. Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава так тлумачыць гэтае паняцце: «...незалежнасць лакальнай, мясцовай царквы краіны ад начальствавання замежных духоўных уладаў і спалучэнне яе з апошнімі цэрквамі пры дапамозе веры і кананічных прынцыпаў. Аўтакефалія з'яўляецца адным з асноўных прынцыпаў ладу Праваслаўнай Царквы».

Дарэчы, Уладыка Сава патлумачыў у гутарцы, урыўкі з якой цытуюцца тут («Беларускі каляндар», 1992), што аўтакефалія ёсць форма царкоўнага ладу і не абазначае ні расколу, ні парушэння адзінства Усяленскай Праваслаўнай Царквы.

Застаецца дадаць, што кожны тыдзень праз радыёвяшчальную станцыю Польскага радыё ў Беластоку перадаюцца пропаведзі на беларускай мове, а ў адной беластоцкай святыні набажэнства вядзецца таксама па-беларуску. На жаль, па сведчанні Уладыкі Савы, прысутнасць у час гэтых набажэнстваў нязначная... Што, безумоўна, яшчэ адно сведчанне нізкай нацыянальнай свядомасці беларусаў, дзе б яны ні жылі...

**Л.Ш.**

***Што для мяне малітва***

## Напоўніць дасканалую форму

Я толькі вучуся маліцца, а таму асноўнай малітвай для мяне з'яўляецца "Ойча наш». Наогул маё адкрыццё значэння і сэнсу малітвы пачалося, відаць, пасля прачытання «Лістоў да сябра» Голубева. Гэтая невялікая кніжачка паказала мне малітву «Ойча наш», якую я паўтараў тысячы разоў, у новым святле — малітву надзвычай багатую, нягледзячы на сваю ўяўную сціпласць і прастату. Чытанне «Лістоў да сябра» ўдаводніла мне, што словы малітвы з'яўляюцца ўласна толькі больш-менш дасканалай формай. Ад нас жа залежыць, чым гэтую форму напоўнім.

Малітву разумею як дыялог з Богам. А таму малітва не павінна быць вымаўленай вуснамі або ў думках, малітвай можа таксама быць нямы зварот да Бога.

Малітва не можа быць таксама запланаванай, прыкладам, малітва рана і ўвечары, а часцей узнікае з настрою ў пэўную хвіліну жыцця, калі ствараецца неабходнасць малітвы. Прыкладам, мой малітоўны настрой узнікае часта праз перажыванне прыгажосці — прыроды, музыкі. У дасканалай прыгажосці твора мастацтва бачу я водбліск Святла, у прыгажосці прыроды і чалавека — непасрэдны след Божай рукі.

Малітву інспіруе таксама і неабходнасць. Малюся часам, просячы дапамогі дзеля сябе, дзеля кагосьці блізкага або нават незнаёмага. Крыніцай малітвы можа стаць таксама радасны зрух сэрца, пачуццё ўдзячнасці за атрыманую ласку або промень шчасця.

Прытым, аднак, не настрой з'яўляецца самым важным чыннікам, які інспіруе малітву, сама важная з'яўляецца воля. Сказаў я, што малітва не можа быць запланаванай. Больш таго, здаецца мне, што калі зрабіць малітву планавым абавязкам, то ёсць небяспека, што яна пераўтворыцца ў бяссэнсавае вымаўленне словаў. Так можа здарыцца, калі абавязаць сябе гаварыць малітву перад тым, як сядзеш за стол, або пасля яды. Адчуваю гэта як бессэнсоўнае згадванне Божага імя.

Таксама і маленне з «кніжачкі» тоіць у сабе небяспеку пустога паўтарэння словаў замест таго, каб напаўняць словы малітвы ўласным перажываннем. Да таго ж, некаторыя малітвы ў «кніжачках» саладжавыя. Такі тэкст немагчыма напоўніць уласнымі перажываннямі, з-за чаго сама такая малітва становіцца ў пэўным сэнсе непраўдзівая.

Асабіста я ніколі не выкарыстоўваю літургічныя «кніжкі», затое стараюся не прапусціць патрэбы звароту да Бога, якія ўзнікаюць у сэрцы, стараюся чуць голас уласнага сэрца і голас Бога. На практыцы ўдаецца гэта мне перш за ўсё ва ўмовах, якія дазваляюць моцна сканцэнтравацца, адключыцца ад усіх навакольных галасоў і праблемаў. Таму ахвотней малюся ў цішы пустой бажніцы, у полі, а таксама ноччу.

Можаце запытацца, а як жа супольная малітва падчас імшы? У супольнай малітве ахвотна ўдзельнічаю тады, калі ўсе ўдзельнікі набажэнства шчыра захопленыя гэтым. Такую малітву яшчэ я перажываю пачуццём чагосьці каштоўнага і радаснага, пачуццём моцнай сувязі і братэрства з іншымі людзьмі. Прысутнасць жа людзей, што аглядваюцца ці шэпчуцца, выразна мне перашкаджае. Таксама і святар уплывае на маю малітву сваімі паводзінамі пры алтары. Калі адчуваю, што святар глыбока перажывае імшу, гэта паглыбляе і мае перажыванні.

Толькі нядаўна я зразумеў, што святая імша — гэта штосьці большае, чым супольная малітва пад кіраўніцтвам святара. Ад таго часу абавязак прысутнічаць на імшы замяніўся для мяне на радасную неабходнасць.

Стараюся бываць на імшы ў будзённыя дні. Нават люблю больш імшу ў будзень. Тады прыходзяць у касцёл толькі тыя, хто хоча. Няма тых, каго выпіхваюць з дому, няма «паказу мод» перад бажніцай і ў бажніцы. Разумею, што тут праз мяне пачынае гаварыць чалавек, які любіць кпіць, бо, напэўна, добра, што ўсё ж людзі ідуць у бажніцу.

У будзень, калі прысутнічае невялікая колькасць людзей, мне прасцей, паўней і непасрэдней удзельнічаць разам з вернымі ў набажэнстве. Я тады выбіраю такое месца, адкуль лепш відаць усё, што робіць ля алтара святар, хаця, безумоўна, такая «выгода» не павінна мець аніякага значэння.

**Мужчына, 25 гадоў, адукацыя вышэйшая тэхнічная, жыве ў вялікім горадзе.**
***(Передрук з кніжкі «Безымянныя гавораць пра малітву»).***

Мікалай КРЫЎКО

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЕРАЎТВАРЭ́ННЕ** (карэнныя змены чаго-н.) *Светапогляд гэтых пісьменнікаў быў абмежаваны: яны не ішлі далей радыкальных дэмакратычных пераўтварэнняў* (Хромчанка). **РЭАРГАНІЗА́ЦЫЯ** *Гэтая рэарганізацыя скончылася тым, што яны [браты] спрасцілі свае канторы і скарацілі штат службоўцаў* (Чорны). **РЭФО́РМА** *Тарашкевіч падкрэсліў, што для беларускага селяніна зямельная рэформа без выкупу з'яўляецца асноўным пытаннем* (Машара), **ПЕРАБУДО́ВА** *Тут [у Рубяжах] вяршыліся ўсе справы перабудовы старога ладу* (Машара). *Сымон Зяблік — барацьбіт за сацыяльную перабудову грамадства, за нацыянальнае вызваленне беларускага народа* (Ярош). **ПЕРАРО́БКА** *Імі [калгаснікамі] кіравала спрадвечная прага чалавека-творцы да ўдасканалення ўсяго, што існуе навокал нас, да свядомай пераробкі свету на карысць усім людзям* (Дубоўка).

**ПЕРАХАПІ́ЦЬ** (што і ў безасабовым ужыванні: пра спазмы ў горле, грудзях) *Там сядзела Мацючыха. Хацелася крыкнуць, каб і яе сюды, за гэты паркан, але нешта перахапіла голас, і Галя хуценька выбегла з залы на свежае паветра* (Сабаленка). *Сэрца неяк тужліва сціснулася, і ў горле адразу перахапіла* (Алешка), **ПЕРАХВАЦІ́ЦЬ** *[Дзяжа:] Ты хто? — Маўчыць, ляжыць на доле. А як разгледзеў, яшчэ болей Перахваціла яму дух* (Колас). *Ён чуе страшэнную адзіноту. Штось перахватвае яму горла* (Колас), **ПЕРАЦЯ́ЦЬ** і **ПЕРАТНУ́ЦЬ** *І ад таго, што горла яго перацяла спазма, голас у Віктара сарваўся* (Карпаў). *У хлапечых грудзях ад болю перацяло дыханне* (Быкаў). *Ах, недзе перацяло ў горле і перасохла* (Пестрак), **ПЕРАЦІ́СНУЦЬ** *Слова «спазніўся» Барашкін не мог вымавіць і змоўк — перацiснула горла* (Савіцкі). *[Саша:] — Абзываешся!.. Сама ж прагаварылася, што нехта маецца прыйсці... — даўкі камяк нібы перацiснуў яму горла, не даваў гаварыць* (Лецка), **СЦІ́СНУЦЬ** *Спазмы моцна і балюча сціснулі Косцева горла, ён памкнуўся нешта сказаць, але адчуў, што не мае сілы* (Адамчык). *Хвядос глянуў на ўнучка, на дзяўчынку, на Апанасіху, і ў горле яго сціснула, як абцугамі* (Скрыпка), **ЗДУШЫ́ЦЬ** *Спазмы здушылі Вялічкава горла* (Чорны). *Тугі камяк здушыў хлопчыку горла, і ён адвярнуўся ад дзядзькі Хведара, каб той не заўважыў падступіўшых слёз* (Курто). *І ў Ніны здушыла ў горле, зрабілася цяжка дыхаць, і ў яе паліліся з вачэй слёзы* (Арабей). *Смутак здушыў Крамарэвічу грудзі* (Чорны), **ЗАДУШЫ́ЦЬ** *Ад хвалявання задушыла горла. Жанчына не дагаварыла: моцныя рыданні задушылі яе голас* (Якімовіч), **СЦІ́СНУЦЦА** *Але Косцік не чуў, што гаварыў Воўка. У грудзях у яго ўсё сціснулася, вочы заслаў нейкі туман* (Арабей), **СПЁРЦІ** *У Андрэя сперла ў грудзях, здрадніцкі горкі камяк падпёр пад горла* (Асіпенка), **ЗАПЁРЦІ** (звычайна са словамі: **дыханне**, **дух**, **дых**, **духі**) *Ад хвалявання запёрла дух. Запёрла дыханне. Даніла крутануўся быў сюды-туды, але не вырваўся — не было сілы, — і яму заняло, заперла дых і пацямнела ў вачах, і Максімаў голас быў цяпер чуцен, як з-пад зямлі* (Капыловіч), **ЗАХАПІ́ЦЬ** *Захапіла дыханне, паўз вушы засвістаў вецер* (Пупсякоў). *Аж захопіць дух блазноце Нейкі радасны парыў, І ў самоце-адзіноце Песні, байкі ён тварыў* (Колас). *Мікола выпіў. Ром быў пякучы, аж захапіла дых* (Новікаў). **ЗАНЯ́ЦЬ** *Халодная, яшчэ зімовая вада адразу заняла дыханне* (Грамовіч). *Сцяпанкіна разгарнула яе [паперку] і вачам не паверыла. Гэта была сторублёўка. У цёткі Любы і дух заняло* (Кавалёў). *Убачыўшы хлопцаў, [дзед] усміхнуўся. — Сядайце. Пракачу — дых зойме* (П.Ткачоў). *Юрку заняло дыхаць: акурат сам падумаў пра гэта* (Чарнышэвіч), **ЗАБІ́ЦЬ** *І неяк адразу ўспомнілася ўсё да драбніц і зрабілася так балюча, што на нейкі момант аж дыханне забіла* (Кірэйчык). *Узіраючыся здалёк у канец вуліцы і ўбачыўшы бляшаную, як памутнелы лёд, страху мураванага дома, Міця ўчуў, як тузанулася і забіла дух сэрца — там каля плота свяціліся залацістыя валасы і яснела салацевенькая сукенка* (Адамчык). *Хлопец хоча перавярнуцца, ды раптоўны боль забівае яму дух, ён адразу мякне* (Карпюк), **ЗАЦЯ́ЦЬ** *Неўзабаве ў лейтэнанта зацяло дыханне і ён захлібнуўся чорнай балючай каламуццю* (Быкаў). *У Шчарбацюка на хвіліну зацяло дых — самагонка была вельмі моцная* (Мележ). *Нейкі камяк зацяў горла, і крык заглух* (Хадкевіч). — *Незак.:* **Перахо́пліваць** і **перахапля́ць**, **перахва́тваць**, **перацiна́ць**, **перацiска́ць**, **сціска́ць**, **цісну́ць**, **зду́шваць**, **душы́ць**, **заду́шваць**, **сціска́цца**, **спіра́ць**, **запіра́ць**, **захо́пліваць**, **займа́ць**, **забіва́ць**, **зацiна́ць**.

Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,
кандыдат філалагічных навук

Гісторыя моваў на Беларусі

# Беларуская мова

(Працяг.)









1 — Курземскія гаворкі ліўскага дыялекта латышскай мовы;
2 — відземскія гаворкі ліўскага дыялекта латышскай мовы;
3 — куршскі субстрат у Латвіі, жамойцкі дыялект летувіскай мовы ў Летуве;
4 — курземскія гаворкі сярэднелатышскага дыялекта ў Латвіі, заходнія гаворкі аўкштайцкага дыялекта летувіскай мовы ў Летуве;
5 — земгальскія гаворкі сярэднелатышскага дыялекта ў Латвіі, заходнія гаворкі аўкштайцкага дыялекта летувіскай мовы ў Летуве;
6 — відземскія гаворкі сярэднелатышскага дыялекта;
7 — неселонскія гаворкі верхнелатышскага дыялекта;
8 — селонскія гаворкі верхнелатышскага дыялекта ў Латвіі, усходнія гаворкі аўкштайцкага дыялекта летувіскай мовы ў Летуве;
9 — усходнія гаворкі аўкштайцкага дыялекта летувіскай мовы.

*«Не пазнаю вас у маўчанні,*
*Сябры мае — магіляўчане.*
*Ды ўсюды з вамі ў звонкім ззянні*
*Ёсць слова дарагое — сянні.*
*— Куды, сусед, схадзіў ты сянні?*
*— Мядзведзя пасвіў на аўсянні».*

**Аляксей ПЫСІН.**
*Магілёўская гаворка.*

## Як гаварыла вёска

*(Працяг.)*

**Тэрытарыяльныя дыялекты старажытнай Беларусі**, як і іншыя вусныя формы існавання мовы таго часу, не дадзены нам у непасрэдным назіранні. Непасрэдна назіраць мы можам толькі сучасныя тэрытарыяльныя дыялекты. Падрыхтаваны грунтоўныя апісанні і слоўнікі асобных гаворак, іх груп і цэлых дыялектаў. З гэтых прац можна атрымаць поўнае ўяўленне, як гавораць у розных месцах нашага краю. Пераканацца ў гэтым можна і самому, калі пабываць, прыкладам, на Віцебшчыне і Гомельшчыне, паслухаць там гаворкі мясцовых вясковых жыхароў, а пасля супаставіць гэтыя гаворкі паміж сабой. Чым далей знаходзяцца адна ад другой тэрыторыі пашырэння супастаўляемых гаворак, тым больш істотна яны будуць адрозніваюцца паміж сабой. Нягледзячы на параўнальна невялікую тэрыторыю рэспублікі, ёсць у нас гаворкі, якія адрозніваюцца паміж сабой вельмі прыкметна.

Вышэй мы згадвалі, што сістэма дыялектаў беларускай мовы (як, дарэчы, і многіх іншых моў) склалася яшчэ ў рода-племянную эпоху. Супаставім дзве пададзеныя карты — «Рассяленне ўсходнеславянскіх плямёнаў на тэрыторыі Беларусі ў VIII—IX стст.» (Паводле БелСЭ) і «Групоўка гаворак на тэрыторыі Беларусі беларускіх». Паводле адной, сучасную тэрыторыю Беларусі ў старажытнасці насялялі два буйныя плямёны: паўночны **ўсход** — крывічы (паўднёва-ўсходнюю частку іх тэрыторыі — радзімічы). Паўднёвы **Захад** — **дрыгавічы** (на паўднёва-заходнюю частку іх тэрыторыі з поўдня заходзілі **валыняне**, на Захад — балцкія **плямёны яцвягаў і аўкштайтаў**). На другой бачым, што на былой тэрыторыі крывічоў пашыраны паўночна-ўсходні беларускі дыялект (на радзіміцкім абшары — усходнемагілёўская група яго гаворак); на тэрыторыі, дзе жылі дрыгавічы, — паўднёва-заходні дыялект (на памежжы з валынянамі — заходнепалескія гаворкі, а паўночней — гродзенска-баранавіцкая група гаворак гэтага дыялекта). Вядома, гэтае супастаўленне патрабуе дэталізацыі і ўдакладнення, аднак і ў такім выглядзе яно пацвярджае выказаны вышэй тэзіс пра тое, што сучасныя дыялекты беларускай мовы маюць сваім вытокам дыялекты славянскіх плямёнаў. Аднак гэта супастаўленне дае ўскосныя доказы згаданага тэзіса. Каб атрымаць прамыя, трэба дыялекты эпохі Вялікага Княства Літоўскага, якія адлюстраваліся ў тых жа пісьмовых помніках у выглядзе выпадковых апісак, параўнаць з дадзенымі сучасных дыялектаў беларускай мовы.

Дзеля гэтага нагадаем асаблівасці дыялектаў і груп гаворак беларускай мовы нашага часу. Трэба сказаць, што геаграфія беларускіх гаворак, як і геаграфія беларускага этнасу заходзіць далёка за межы сучаснай тэрыторыі рэспублікі. Яна ўключае Беласточчыну, Віленшчыну, частку Пскоўшчыны, Смаленшчыны, Браншчыны і Чарнігаўшчыны. Межам рассялення беларускага этнасу найбольш адпавядала карта Беларускай Народнай Рэспублікі. Бальшавікі, кіруючыся прынцыпам «падзяляй і ўладар», з мэтаю не дапусціць нацыянальнай беларускай дзяржавы ў этнічных межах падзялілі адзіны народ. Таму значная частка нашых супляменнікаў апынулася за межамі дзяржавы, а сама яна ўключала далёка не ўсе этнічныя беларускія тэрыторыі.

**Паўночна-ўсходні дыялект** характарызуецца дысімілятыўным аканнем і яканнем (галосныя **о** , **э** у першым складзе перад націскам), а таксама калі тыя ж галосныя пад націскам пераходзяць у **і** або рэдукаваны (аслаблены) гук **ъ**, прамежкавы паміж **а** ды **ы** або **і**: *въда*, але *вады*, *зімля*, але *зямлі*; падаўжэннем мяккіх зычных на месцы ранейшых спалучэнняў гэтых зычных з j: *граззю, плацця, гулянне;* канчаткам **і- (-ы)** назоўнікаў у назоўным склоне множнага ліку: *браты, гады, грыбы;* канчаткам **-ам** пад націскам у давальным склоне множнага ліку: *людзям, дубам, быкам* і **-ах** у месным склоне множнага ліку: *аб людзях, дубах, быках;* канчаткам **-ім (-ым)** пад націскам у месным склоне адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду прыметнікаў і займеннікаў: *у жывым, у дарагім, у майім;* формай 3-й асобы адзіночнага ліку дзеясловаў пад націскам: *жывець, ідзець, нясець.*

**Паўднёва-заходні дыялект** (за выключэннем паўднёва-заходняга кутка тэрыторыі) адметны недысімілятыўным аканнем, калі вымаўленне **о**, **э** ў першым складзе перад націскам не залежыць ад якасці націскнога галоснага: *вада, трава, вады, травы;* захаваннем ненаціскнога **о** ў канцы слова (*сено, лето*) або оканнем (*вода, голова, голосіць*); недысімілятыўным яканнем: *вясна, вясною, сцяна, сцяною* або еканнем: *сцена, пета, сцены, петы;* мяккімі свісцячымі і цвёрдымі шыпячымі на месцы спалучэнняў гэтых зычных з j: *плаце, судзя, калосе* або захаваннем ранейшых спалучэнняў: *плацье, судзья, калосье;* канчаткам **-а** назоўнікаў ніякага роду ў назоўным склоне множнага ліку: *вокна, села, паля* або канчаткам **-э** назоўнікаў мужчынскага роду ў гэтым жа склоне: *грыбэ, дамэ, катэ;* канчаткам **-ом** пад націскам у давальным склоне множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду: *дамом, катом, грыбом* і канчаткам **-ох** пад націскам у месным склоне множнага ліку пад націскам: *аб дамох, аб катох, аб грыбох;* канчаткам **-ом** пад націскам, **-ум** не пад націскам у месным склоне адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду прыметнікаў і займеннікаў: *у сухом, у маём, у новум, у гетум;* канчаткам **-е (-я)** у 3-й асобе адзіночнага ліку дзеясловаў 1-га спражэння (з націскам на канчатку): *ідзе, нясе, пяе.*

**Сярэднебеларускія гаворкі** вылучаюцца канчаткам **-о** ў назоўным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў ніякага роду, якія абазначаюць маладых істот: *цялё, жарабё, птушанё;* націскнымі канчаткамі **-ець, -іць (-ыць)** і ненаціскнымі ў 3-й асобе адзіночнага ліку дзеясловаў цяперашняга часу абвеснага ладу 1-га і 2-га спражэнняў: *ідзець, нясець, пяець,* але *ходзя, нося, гуляе, хоча;* формай дзеясловаў адзіночнага ліку жаночага роду прошлага часу 1-га спражэння тыпу *несла, везла;* канчаткам творнага склону множнага ліку назоўнікаў, прыметнікаў і займеннікаў з цвёрдым зычным, накшталт *дамамы, з маладымы, са сваімы* і г.д.

**Заходнепалеская група гаворак** проціпастаўляецца ўсім астатнім гаворкам Беларусі. Для яе характэрныя: адсутнасць дзекання і цекання (*день, темный, діты, тітка*), губна-губны гук **в** (блізкі да **ў**) (*вовк, вырэвка*), фарынгальны гук **г** (*голка, тягнуты*), цвёрдыя зычныя перад галоснымі **е** і **ы** (*зылены, лыпа, пыты*).

*(Працяг будзе.)*





# Вядома ж — сталіца!

У старых скандынаўскіх сагах наша краіна названа Гардарыкай — краінай гарадоў. Беларускія археолагі падаюць (ці не фантастычны!?) лік старажытных гарадзішчаў на нашых абшарах. Прыкладам, Л.Д.Побаль перакананы, што іх было каля 600. Іншыя даследнікі налічылі паўтараста. Вядома, не кожнае гарадзішча, што было збудавана нашымі прашчурамі за некалькі стагоддзяў да Хрыстовага нараджэння, можна назваць горадам, але калі хоць адно з пяці, то і ў такім выпадку іх будзе не меней 30. Зрэшты, з летапісаў ды



іншых крыніц вядомыя 32 старажытныя крывіцкія, дрыгавіцкія ды радзіміцкія гарады. Кожнаму з іх — сама меней па тысячы гадоў, бо, пэўна ж, нашыя гарады існавалі задоўга да таго, як пра іх згадалі летапісцы.

Адзін з такіх — Навагарадак (Наваградак). Навукоўцы згадзіліся лічыць часам яго заснавання 1044 год, таму сёлета 23—24 верасня ў Навагарадку наладзілі ўрачыстае святкаванне 950-годдзя горада. У сельскагаспадарчым тэхнікуме адбылася навуковая канферэнцыя... На рынку — (г.зн. на пляцы ў цэнтры горада) выступалі калектывы мастацкай самадзейнасці ды прафесійныя музыканты і спевакі... На замчышчы паказалі сваё майстэрства вершнікі на прыгожых пародзістых конях. Шчырую сімпатыю гледачоў, што густа абселі рэшткі абарончых валоў, заваяваў гняды поні, які і забаўляў, і скакаў удала.

Хаця афіцыйна не адбыўся другі з'езд навагарадцаў свету, але людзей, прывязаных сэрцам да гэтага горада, з'ехалася шмат — калі меркаваць з нумароў аўтобусаў.

Прыемна было бачыць жыхароў горада, што сем'ямі хадзілі на рынку, аздобленым некалькімі харугвамі з выявай «Пагоні» і «Чорнага анёла» — герба Навагарадка. Не міналі і замчышча, аглядалі рэшткі велічных замкавых вежаў, дзе любаваліся прыгожымі краявідамі. А далягляды бачацца з замчышча сапраўды велічнымі: не адзін навагарадчанін, пэўна, падумаў, што не выпадкова менавіта гэтае месца прашчуры абралі, каб пабудаваць тут магутны горад.

Дзіўна і прыкра толькі было бачыць пакапаны экскаватарам і неахайна параўнаваны бульдозерам дзядзінец каля вежаў. Мабыць, сапраўды трэба было праверыць



стан падмуркаў, бо дзе-нідзе ў вежах заўважыш трэшчыну. Але капаць экскаватарам? Адзін навагарадчанін, абураючыся, згадаў, як акуратна, старанна аглядаючы кожную жменьку зямлі, капалі калісь археолагі.

А я ўспомніў радкі з кнігі вядомага археолага Фрыды Давыдаўны Гурэвіч «Древний Новогрудок», што была выдадзена ў горадзе па-над Нявой у 1981 годзе.

Навагарадак прывабіў ленінградскіх археолагаў тым, «што быў акружаны паселішчамі і курганнымі могільнікамі з тыпова славянскім інвентаром». Пасля працяглых пошукаў месца раскопу было вырашана даследаваць тэрыторыю пасаду, які ў XII стагоддзі стаў вакольным (г.зн. па-за замкам-«градам») горадам — быў абнесены валам, вышыня якога была каля трох метраў, шырыня — 9—10 метраў. Сістэматычныя раскопкі пачаліся ў 1957 годзе. Археолагі выявілі...

Можна ўявіць, як былі ўражаны археолагі тым, што яны ўбачылі, калі нават праз чвэрць стагоддзя Ф.Д.Гурэвіч напісала: «Вялікім было здзіўленне, калі пры даследаванні пласту XII—XIII стагоддзяў адкрыліся рэшткі зусім незвычайных пабудоў. Уражвала ўсё: іх вялікія памеры (плошча да 100 кв. метраў); наяўнасць аконнага шкла і цэглы, што траплялюся сярод будаўнічых рэшткаў; насценны роспіс адной з пабудоў; разнаякі рыштунак, сярод якога было шмат рэчаў раскошы і унікальных вырабаў з каляровых металаў і жалеза; жалеза ў крыцах і мноства жалезных наканечнікаў стрэл».

Жылыя будынкі XII—XIII стагоддзя захаваліся дрэнна, аднак і тое, што ацалела, выразна разыходзілася з уяўленнямі, якія ўжо мелі археолагі пра жылыя пабудовы старажытных гарадоў. Асабліва ўразілі даследнікаў чатыры дамы, сярод якіх вылучаўся адзін, названы «домам баярына». Ён, верагодна, складаўся з двух памяшканняў. У паўночна-ўсходнім кутку аднаго знаходзілася глінабітная печ; амаль у цэнтры драўлянай падлогі — яма з-пад драўлянага слупа, які мог быць дэкаратыўным або падтрымваў столь. Вокны «дома баярына» былі зашклёнымі — паблізу яго вуглоў знойдзены кавалкі аконнага шкла. Сцены будынка былі атынкаваныя і аздобленыя фрэскавым роспісам. Гісторык Ю.П.Спягальскі спрабаваў рэканструяваць гэты роспіс, што складаўся, паводле яго меркавання, з чырвонага поля і сюжэтных малюнкаў, характар выявы якіх застаўся незразумелым. «Аднак, трэба адзначыць, — сцвярджае Ю.П.Спягальскі, — што якім бы ні быў змест гэтага роспісу, агульны характар карэнным чынам адрозніваў яго ад царкоўных роспісаў». Трэба згадаць, што фрэскавы роспіс у грамадзянскіх пабудовах Навагарадка — з'ява унікальная.

Унікальнай з'яўляецца і асаблівасць жылых пабудоў вакольнага горада таго часу — іх зашклёнасць. Падчас раскопак знойдзена шмат фрагментаў аконнага шкла — дыскі розных дыяметраў. Археолагі лічаць, што ў кожным акне былі тры-чатыры круглыя шыбы. Навагарадскія шкляныя вокны ў будынках XII стагоддзя тым больш здзіўляюць, што, прыкладам, у Масковіі нават у XVI стагоддзі такія вокны былі рэдкасцю. Шматлікія паведамленні іншаземных падарожнікаў XVI—XVII стагоддзяў сведчаць, што ў жылых пабудовах Масквы выкарыстоўваліся валакавыя (засоўваліся дошкай) і слюдзяныя вокны. Ёсць звесткі, што да Пятра Вялікага нават у царскім палацы замест шкляных шыбаў у вокнах была слюда.

Археолагі пагадзіліся, што будынкі, рэшткі якіх яны адкапалі, былі двухпавярховымі. Сярод багатых дамоў вакольнага горада яны не знайшлі аднолькавых будынкаў, усе дамы мелі індывідуальныя рысы. Варта згадаць, што Ф.Д.Гурэвіч зрабіла паводле вынікаў сваіх шматгадовых даследаванняў такую выснову: «Багаты квартал не быў чужародным у Навагарадку, а ўзнік у выніку развіцця мясцовай культуры».

Вось такія сведчанні археолагаў пра першую сталіцу нашай старажытнай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага. На жаль, у дні ўрачыстага святкавання 950-годдзя Навагарадка нішто там не нагадвала пра старажытную сталіцу. Але я не ўяўляю, каб рэшткі вежаў велічнага навагарадскага замка не пакінулі ў душах сучасных навагарадцаў гонар за сваіх продкаў-будаўнічых. Магчыма, у кагосьці карцела пытанне: «Дзеля чаго тут, на высокай гары, быў пабудаваны з валуноў і цэглы магутны і велічны замак?»

*Так будавалі сталіцу.*

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

**На малюнках:** 1. Навагарадскі замак XIV стагоддзя. Рэканструкцыя мастака Яўгена Куліка паводле даследаванняў Міхася Ткачова. 2. Квартал вакольнага горада Навагарадка ў XII стагоддзі. Інтэр'ер дома з фрэскамі. XII стагоддзе. Рэканструкцыя мастака Віктара Сташчанюка. 3. Навагарадскі замак XIV ст. Рэканструкцыя Яўгена Куліка паводле даследаванняў Міхася Ткачова. 4. Навагарадскае замчышча. Мал. Н.Орды. Сярэдзіна XIX ст. 5. Вежа «Шчытоўка».

**Фотаздымкі** з прыватнага збору **Яўгена Куліка** і **Анатоля Клешчука**.



## ДОМ ЛІТАРАТАРА ЗАПРАШАЕ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 12 кастрычніка чацвер | «Любіце паэтаў, любіце...» Вечар памяці: Рыгору Семашкевічу — 50 | 18.30 | Вялікая зала |
| 13 кастрычніка пятніца | «З верай, надзеяй, любоўю» Прэм'ера кнігі Любові Шэлег «Рамонкавае поле» | 18.30 | Вялікая зала |
| 17 кастрычніка аўторак | Прэм'ера серыі тэлевізійных мастацкіх фільмаў рэжысёра Віктара Шавялевіча па сцэнарыях Сяргея Тарасава «Пастка для зубра. Ягайла» «Пастка для зубра. Вітаўт» | 18.30 | Вялікая зала |
| 19 кастрычніка чацвер | Секцыя паэзіі | 15.00 | Канферэнц-зала |
| 20 кастрычніка пятніца | «На сходзе незвычайна-скрушных дзён...» Паэтычная пятніца Вольгі Куртаніч | 18.30 | Кавярня |
| 23 кастрычніка панядзелак | Музычна-літаратурная кампазіцыя паводле оперы Антоні Генрыка Радзівіла «Фаўст» | 18.30 | Вялікая зала |
| 26 кастрычніка чацвер | Секцыя літаратуры для дзяцей і юнацтва | 15.00 | Канферэнц-зала |
| 30 кастрычніка панядзелак | Секцыя прозы Абмеркаванне творчасці маладых | 15.00 | Канферэнц-зала |

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 516

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 4566 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 9.10.1995 г. у 15 гадзін.